Вас чакаюць на пошце — падпіска на «Народную Волю» працягваецца.

**№№189–190 (3728–3729)**

4 снежня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



Няўжо знішчаць?

НУ І НУ!

## Аўрал у Віцебску

*На гэтым тыдні ў Віцебску чакаюць Аляксандра Лукашэнку. Ён павінен наведаць мясцовы дрэваапрацоўчы камбінат. У панядзелак ля прадпрыемства быў затрыманы незалежны журналіст Сяргей Серабро.*

Рэдактар сайта "Народныя Навіны Віцебска" паведаміў пра затрыманне праз інтэрнэт. Пад увагу міліцыі ён трапіў, калі фатаграфаваў укладку новага асфальту. З журналістам міліцыя абышлася па-мірнаму, яго праз некаторы час адпусцілі, але...

Падрыхтоўка да візіту Аляксандра Лукашэнкі ідзе поўным ходам. Працаўнікі камбіната паведамляюць, што апошнімі днямі спешна рамантуюцца ўсе карпусы, каля адміністрацыйнага будынка кладуць плітку, на тэрыторыі прадпрыемства працуюць будаўнікі з усіх раёнаў Віцебска, і праца не спынялася нават у мінулыя выхадныя. За межамі тэрыторыі камбіната таксама вядзецца добраўпарадкаванне: фарбуюць фасады дамоў, абразаюць дрэвы і нават выкарчоўваюць дэкаратыўнае кустоўе.

Навошта ўся гэтая паказуха — вось у чым пытанне?

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

## Надо ли так?

Поучительный диалог с бывшей учительницей и членом участковой избирательной комиссии привел на страницах еженедельника "Свободные новости +" известный белорусский поэт Сергей Законников. В ответ на обвинения в фальсификации результатов голосования, зафиксированных наблюдателями, пенсионерка не моргнув глазом заявила: "Так надо! А что, вы хотите, чтобы война была? Мы спасаем наше государство!"

Таким образом представительница белорусской интеллигенции сделала "гуманный поворот", чтобы оправдать уголовное преступление. Как знакомы эти "повороты" среди "гомо советикус"! Вспомним: Ленин и Сталин уничтожили миллионы своих сограждан ради "укрепления государства", ради мифического "построения коммунизма". Дескать, сейчас "врагов уничтожим", а потом будем жить долго и счастливо. Не получилось.

Но последователей идеи "цель оправдывает средства" у нас до сих пор хоть отбавляй. Одно время я искренне считал, что наши люди не могут оправдать физическое уничтожение человека ради призрачного "порядка и дисциплины". Думал, что люди просто не знают, что произошло с белорусскими оппозиционными политиками Ю.Захаренко и В.Гончаром. Но в 2001 году, когда проходили выборы президента, однажды пришлось вступить в спор со сторонниками А.Лукашенко, и когда аргументы на экономические темы не сработали, попытался образумить оппонентов судьбой бывших министра МВД и вице-премьера правительства. На что получил ответ: "Будешь выступать — и ты там будешь!" То есть люди прекрасно знали, по чьей команде и зачем они были похищены и, как полагает независимое расследование, убиты (без суда и следствия). И что таким "подмахнуть" протокол с цифрами, нужными власти? Это для них мелочь.

На последних, с позволения сказать, "выборах" на избирательном участке в ЦДТ "Крэчут" в качестве наблюдателя присутствовала ветеран "от Скачковой" Светлана (так она назвалась). Когда мы, независимые наблюдатели, стали делать замечания участковой комиссии по поводу нарушений (одни и те же люди приходили голосовать несколько раз), она возмутилась: "Вот вы какие, придираетесь к мелочам!" Когда же комиссия объявила, что на дому проголосовало больше, чем на самом участке, и мы стали громко стыдить комиссию, бабушка Света сделала вывод: "Вам дай автомат, вы бы всю комиссию перестреляли!" Думаете, она возмутилась и составила акт о явном нарушении избирательного кодекса? Нет, она с чувством выполненного долга незаметно удалилась с участка. Успела, правда, удостоить США звания "бандитского государства".

Вот так и живем: на выборах приписываем голоса, во время жатвы приписываем тонны зерна, заодно — надои, привесы. ВВП у нас растет, а жизнь ухудшается. В экономике, оказывается, разброд и шатание. И это сказал сами знаете кто. Правда, чуть раньше он же твердил о "стабильности и процветании" и о "правильности выбранного курса". А теперь даже у "рыцарей плаща и кинжала" нездоровый психологический климат. Тоже — разброд и шатание? Неужели чекисты поспешили делать ставки на 2015 год?

Александр Григорьевич предрекает нам очень тяжелый 2013 год. Зато В.Сысоев с Т.Ивкиной (*председатель райисполкома и главный редактор провластной райгазеты "Крычаўскае жыццё". —* **Ред.**) пытаются зажечь огонь энтузиазма среди сельских тружеников. Предлагается намолотить 50 тысяч тонн зерна. Будущий "огонь" подстимулировали подарками, музыкой и дегустацией кондитерских изделий хлебозавода. Правда, выяснилось, что передовиков-2012 выявили не согласно установленной процедуре, а по другим признакам. Вернее, вообще наобум.

Чем же будет оправдан "тяжелый 2013 год"? Происками Запада, коварством Путина (или Медведева), вероломством оппозиции и журналистов, вспышками на Солнце?

**Сергей НЕРОВНЫЙ,**
*("Вольный город")*.

*г.Кричев.*



БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

## Хиллари КЛИНТОН: «США продолжат поддержку борцов за свободу в Беларуси»

*Хиллари Клинтон подвергла критике поведение властей Украины и Беларуси и похвалила выборы в Грузии. Она выступила с речью в институте Брукингса, посвященной отношениям Америки и Европы.*

*"Октябрьские выборы в Украине были шагом назад в демократическом развитии страны, и мы по-прежнему глубоко обеспокоены случаями избирательного правосудия над лидерами оппозиции. В Беларуси правительство продолжает систематически ущемлять права человека, так что мы продолжаем призывать к освобождению политических узников и поддерживать тех храбрых активистов, которые отстаивают права народа Беларуси",* — цитирует госсекретаря США информационное агентство РИА "Новости".

При этом она также сообщила, что США *"приветствовали выборы в Грузии и первый случай мирной передачи власти в истории этой страны". "Мы продолжаем призывать новое правительство продемонстрировать свое стремление к демократии, прозрачности и верховенству закона",* — отметила она.

ЗДАРЭННЕ

## Аўтамабіль ДАІ перавярнуўся падчас пагоні

У пасёлку Гарадзішча Баранавіцкага раёна ў сур'ёзную аварыю патрапілі супрацоўнікі ДПС, якія праследавалі Skoda Octavia.

Па нявысветленай пакуль прычыне гэтая машына не спынілася на патрабаванне інспектара. Кіроўца праігнараваў таксама праблісковыя маячкі і ўсе заклікі праз гукаўзмацняльную апаратуру, паведаміла начальнік аддзялення агітацыі і прапаганды ДАІ Брэсцкай вобласці Наталля Сахарчук. І тады супрацоўнікі ДАІ распачалі пагоню. У пасёлку Гарадзішча кіроўца-міліцыянер на закругленні дарогі не справіўся з кіраваннем, наехаў на бардзюр, і машына перакулілася. Абодва інспектары атрымалі траўмы. У супрацоўніка, які знаходзіўся за рулём, удары, у яго напарніка чэрапна-мазгавая траўма, страсенне мазгоў, рана рукі.

Skoda была пазней знойдзена ў кіламетры ад месца здарэння, аднак кіроўца ўцёк. Як аказалася, 29 лістапада гэтая машына перасекла мяжу. За рулём знаходзіўся грамадзянін Літвы (1949 года нараджэння). Зараз ідуць пошукі кіроўцы.



### ДАРЭЧЫ

Гэта не першы выпадак, калі супрацоўнікі ДАІ дэманструюць не вельмі высокі прафесіяналізм у кіраванні аўтамабілем у складаных умовах. Так, у Мінску ў дачыненні да кіроўцы экіпажа ДПС аддзела ДАІ Маскоўскага раёна сталіцы, які ўрэзаўся ў мачту асвятлення на сталічнай вуліцы Чыгуначнай 22 жніўня гэтага года, распачата крымінальная справа. У аварыі быў цяжка траўміраваны пасажыр машыны ДАІ — 33-гадовы інспектар ДПС аддзела ДАІ Маскоўскага раёна сталіцы. Яму ампутавалі нагу. У той дзень экіпаж ДАІ Кастрычніцкага раёна паспрабаваў спыніць Volkswagen Polo. Кіроўца не падпарадкаваўся законнаму патрабаванню, і, падазраючы, што ён можа быць п'яны, інспектары пачалі праслед парушальніка. Калі Volkswagen Polo апынуўся на тэрыторыі Маскоўскага раёна, на дапамогу калегам выехалі інспектары ДПС аддзела ДАІ Маскоўскага раёна на службовай Lada Priora. На вуліцы Чыгуначнай машыну вынесла з праезнай часткі, і аўтамабіль урэзаўся ў асвятляльную мачту. У выніку ДТЗ супрацоўнікі ДАІ (29 і 33 гадоў) атрымалі цяжкія траўмы.

НАДВОР'Е

## Завеі. Снежань

Сіноптыкі папярэджваюць, што ў аўторак чакаецца да 7 градусаў марозу, снег.

У Гомельскай і Магілёўскай абласцях — моцны снег, месцамі завіруха, слабы галалёд, на дарогах снежныя заносы.

Удзень у многіх раёнах краіны магчымы невялікі снег. На асобных участках дарог галалёдзіца. Вецер будзе паўночны, паўночна-заходні, 4—9 метраў за секунду, на ўсходзе яго парывы дасягнуць 14 метраў за секунду.

Тэмпература паветра на працягу сутак будзе ад нуля да -5 градусаў, у начныя гадзіны на паўночным захадзе — да 7 градусаў марозу.

Прыкладна такое ж надвор'е захаваецца да канца тыдня.

У сераду і чацвер мінімальная тэмпература паветра ўначы 2...9 градусаў марозу, максімальная днём — ад нуля да мінус 5. Часам будзе ісці снег.

7 снежня, у пятніцу, чакаецца снег, слабая мяцеліца. Тэмпература паветра ўначы апусціцца да 4—10 градусаў марозу, пры праясненнях — да мінус 12, днём чакаецца 2—7 градусаў марозу.

У выхадныя на тэрыторыю краіны будзе паступаць яшчэ больш халоднае паветра, маразы ўзмоцняцца. Тэмпература паветра ўначы апусціцца да 12 градусаў марозу, пры праясненнях — да мінус 14 градусаў, а днём чакаецца 2—8 градусаў ніжэй за нуль.

БЕЗ РЭТУШЫ

## Дурная мода

**Сапраўды, нейкая дурная мода пайшла гуляць па Беларусі. Не паспеюць пабудаваць нешта значнае, як давай руйнаваць. Колькі высілкаў спатрэбілася грамадскасці, каб адстаяць у Мінску тую ж 22-павярховую гасцініцу "Беларусь". А вось "Кастрычніцкую", што побач з "Чырвоным домам", разбурылі настолькі хутка, што ніхто і ахнуць не паспеў. Машэраў лічыў яе будынак шыкоўным, а Лукашэнка вырашыў на яго месцы ўзвесці пяцізоркавы "Прэзідэнт-гатэль". Мабыць, мулялі лішнія грошы.**

**І вось свежая навіна: каб вызваліць пляцоўку для "башні" "Газпрома", у сталіцы знясуць аўтавакзал "Маскоўскі". Той самы, які пабудавалі ўсяго (!) 13 гадоў таму і арыгінальная архітэктура якога звяртала ўвагу не толькі жыхароў Мінска, але і яго гасцей. Якіх толькі ўзнагарод не сабраў ён! У 2003 годзе аўтавакзал быў нават уганараваны Дзяржпрэміяй Рэспублікі Беларусь.**

**Плачуць народныя грошы, калі адна рука не ведае, што робіць другая. Не сто і не дзвесце гадоў таму праектаваўся і ўзводзіўся аўтавакзал "Маскоўскі". Што, напрыканцы дзевяностых не было генеральнага плана забудовы Мінска? Як можна так безабачліва закопваць мільярды рублёў падаткаплацельшчыкаў? У нас столькі грошай, і мы ўсе такія багатыя, што можна раскідвацца грашыма, як цукерачнымі фанцікамі?**

**Дырэктар філіяла "Мінскі аўтавакзал" Віктар Палаўчэня заявіў: нічога страшнага няма ў тым, што "Маскоўскі" знясуць. Маўляў, дастаткова двух іншых аўтавакзалаў. Маюцца на ўвазе "Усходні" і "Цэнтральны", які яшчэ, можна сказаць, не дабудаваны. Чыноўніку не баліць, што "Маскоўскі", які невыпадкова ўзвялі на стратэгічным накірунку і які толькі пачаў свой век, пойдзе пад бульдозер, ператворыцца ў пыл. У пыл ператворацца мільярды народных грошай, у тым ліку і яго, Віктара Палаўчэні.**

**Скажыце, а чым кіраваліся "отцы города", калі пачыналі ўзвядзенне "Маскоўскага"? Не ведалі, што на месцы старога "Цэнтральнага" з'явіцца новы, з куды большым пасажырапатокам? Дарага абыходзіцца беларускаму народу "курыная слепата" гора-чыноўнікаў.**

**У цывілізаваных краінах знос любой мала-мальскай хібары немагчымы без узгаднення з шырокай грамадскасцю. Хто спытаў у мінчан, ці трэба руйнаваць не аджыўшую свой век гасцініцу "Кастрычніцкая"? Ніхто! Хто спытаў, а ці можна нішчыць, лічы, новенькі аўтавакзал "Маскоўскі"? І якія нязручнасці будуць мець у далейшым многія і многія пасажыры? Месца ж для "Маскоўскага" было выбрана невыпадкова.**

**Што і казаць, дурная мода пайшла ў нашай краіне — не раіцца з народам. Захацелася самаму высокаму начальніку пабудаваць атамную станцыю — будуецца. Захацелася насыціць вантробы "Газпрома" — калі ласка, вось табе лепшы кавалак зямлі ў Мінску. А што падумае народ — да лямпачкі. Як быццам свет клінам сышоўся менавіта на гэтым сталічным куточку! Вунь колькі пустэч, дык не, узрывай толькі што пабудаваны вакзал, на яго месцы будзе *"офисно-деловой комплекс с гостиницей".* Акупацыя з усходу?!**

**У мільёнаў нашых людзей заробкі такія, што ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі. Пенсіі наогул абразлівыя — многім даводзіцца перабівацца з хлеба на ваду. І ў гэты ж час руйнуюцца абсалютна прыгодныя збудаванні, у пыл ператвараюцца сотні мільярдаў рублёў падаткаплацельшчыкаў. Нашых, народных грошай!**

**Калі не спыніць дурную моду, яна зруйнуе яшчэ не адзін гмах, ператворыць у пыл не адзін мільярд народных грошай. Пусціць Беларусь па свету з жабрацкай торбай.**

**Янка КАЗЛОЎСКІ.**

СІТУАЦЫЯ

# Заблукалі ў лесе...

*Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў забараніць звальненне работнікаў дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў. Падчас наведвання ў мінулую пятніцу аб'яднання "Барысаўдрэў", ён даручыў распрацаваць на гэты конт адпаведны дэкрэт. "Падрыхтуйце дэкрэт. Да заканчэння мадэрнізацыі і рэканструкцыі забараняецца звальненне работнікаў. Работнік не можа звольніцца з гэтага прадпрыемства без дазволу кіраўніка", — сказаў Лукашэнка. І дадаў: "Адпусцілі — хай сыходзіць, не адпусцілі — павінен працаваць. За парушэнне — на прымусовыя работы".*

"Катэгарычна забараніць усякія звальненні" Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў з 1 снежня. Праўда, ніхто пры гэтым не патлумачыў, як гэта можна ажыццявіць на практыцы, бо, згодна з Працоўным кодэксам краіны, работнік, які працуе на падставе працоўнай дамовы, можа ў любы момант падаць заяву аб звальненні па ўласным жаданні і па заканчэнні вызначанага тэрміну быць звольненым. Так што пытанне, як на практыцы можна прымусіць чалавека працаваць у складаных умовах за невысокі заробак, калі Працоўным кодэксам яму гарантавана права на звальненне, застаецца нявысветленым. Але чыноўнікі на загад кіраўніка дзяржавы адказвалі адно: "Ёсць!" І нешта пісалі ў сваіх нататніках...

Цякучасць кадраў для прадпрыемстваў дрэваапрацоўчай галіны апошнія 15 гадоў з'яўляецца істотнай праблемай. Малыя заробкі і цяжкія ўмовы працы вымушаюць людзей шукаць лепшыя месцы.

Але ці на ўсіх прадпрыемствах краіны такая складаная сітуацыя? Як ідуць справы на прадпрыемствах, якія знаходзяцца пад крылом самой Адміністрацыі прэзідэнта? Ці хапае там не толькі рабочых рук, але і спецыялістаў, якія маюць вопыт і ведаюць праблемы знутры?

Для прыкладу возьмем хоць бы дзяржаўную ўстанову "Нарачанскі нацыянальны парк", якая падпарадкоўваецца Кіраўніцтву справамі прэзідэнта. Цэх дрэваапрацоўкі ў Канстанцінаве ўжо з паўгода ўзначальвае... былы кіраўнік рыбгаса. Раней на гэтай пасадзе працаваў Аляксандр Станчык — спецыяліст з 23-гадовым стажам. Але яго звольнілі з фармулёўкай: "Не апраўдаў даверу". Фармальнай падставай сталі лішкі лесу, якія знайшлі падчас праверкі. Былы начальнік цяпер працуе ў школе, якая знаходзіцца за некалькі кіламетраў ад Канстанцінава, і дагэтуль працягвае ліставанне з Адміністрацыяй прэзідэнта, каб вярнуць сабе добрае імя. Ён просіць правесці яшчэ адну праверку і аднавіць яго на працы. Бо не краў і не мухляваў... І лічыць, што пакараны менавіта за гэта. Вось такая сітуацыя.

Чаму адных нельга звальняць, а іншыя не могуць на працы аднавіцца? **Аляксандр Станчык** распавёў сваю гісторыю "Народнай Волі":

"У нас абсталяванне зусім састарэлае. Самыя новыя станкі завезлі яшчэ ў 1983 годзе, а іншыя і ўвогуле з 1968 года. Канешне, на кепскім абсталяванні сучасную якасную драўніну не зробіш, бо яна і крывая, і памер не трымае. Вельмі бракуе сучасных тэхналогій. Мы прыстасоўваліся, як маглі. Рабочыя, натуральна, не вытрымліваюць — заробкі нізкія, а працаваць даводзіцца то на холадзе, то ў спёку. Калі з'яўляецца магчымасць недзе больш зарабляць, то сыходзяць адразу. Але я працу сваю добра ведаю і люблю. Для мяне звальненне стала нечаканасцю. Дарэчы, я сам папрасіўся ў адпачынак, бо мой сын з інсультам трапіў у шпіталь. Спачатку не адпускалі, а калі адпусцілі, то потым і даведаўся, што мяне ўвогуле звольнілі. Канешне, пакуль ідзе безвыніковае ліставанне з Адміністрацыяй прэзідэнта за аднаўленне на прадпрыемстве, я ўладкаваўся на іншую працу. Але душа баліць за цэх, якому аддаў столькі сіл. Разумею, што стаў нязручным для пэўных колаў. Сёння ж прадукцыя вельмі запатрабаваная, таму ёсць вялікая спакуса рабіць крымінальныя схемы. Я магу абсалютна шчыра сказаць, што сёння на прадпрыемствах дрэваапрацоўкі лес рэжуць пад "левыя" замовы. Усё проста: бярэцца адна замова на паветную дошку (гэта звычайная дошка, якая ідзе на выраб паддонаў), але пад гэта ідзе значна большая колькасць прадукцыі. Здагадваецеся, куды можна пакласці розніцу? І гэта далёка не ўсё. Праверкі?.. Ды ўсе за тры-чатыры месяцы ведаюць, калі будзе праверка, хто будзе яе праводзіць і г.д. А правяраючыя, следчыя і пракуроры будуюць дамы, лецішчы, гаражы... Паглядзіце, колькі сёння спісваецца на адкіды. Мінімум 20% спісваюць на дровы. А гэта ж якасная драўніна. Такога ніколі не было! Лес-кругляк адпраўляюць вагонамі ў Польшчу, Латвію, Літву, раней і ў Фінляндыю адпраўлялі самы адборны. Колькі разоў я прасіў, каб нам давалі хаця б трохі такога лесу, які за мяжу адпраўляюць, — усё было безвынікова. Мы самі яго набывалі ў лясніцтвах: то на Гродзеншчыне, то яшчэ дзе".

Канешне, ёсць у краіне і прыватныя "лесапілкі" з больш-менш сучасным абсталяваннем. Але гэта не той маштаб. Атрымліваецца, што мы самі не можам у поўнай меры спажываць сваё ж нацыянальнае багацце. Лес валяць і прадаюць за мяжу як танную сыравіну, і планы паставак уражваюць. Баюся паказацца песімісткай, але я не ўпэўнена, што на тую мадэрнізацыю дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, за якую цяпер б'юцца на самым версе, лесу хопіць.

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

## Адкажа?

Паглядзеў навіны па тэлебачанні і не змог утрымацца.

Прызначаючы Пятра Пракаповіча кіраўніком Савета па развіцці прадпрымальніцтва, Аляксандр Лукашэнка сказаў яму: "За мадэрнізацыю краіны ты адкажаш".

Можа б, для пачатку Пракаповіч хаця б за дэвальвацыю і збядненне людзей адказаў? Тады б і было відавочна, што хоць нехта за нешта ў нашай краіне адказвае.

Ужо немагчыма ўсё гэта слухаць.

**Іван БУРКО.**

*г.Маладзечна.*

ЗВАНОК НА ПРАДПРЫЕМСТВА

## Ці сапраўды ўсё так дрэнна?

**Павел Шыбкоў** змяніў Аляксандра Станчыка на кіраўнічай пасадзе. Мы датэлефанаваліся яму.

— 20 працэнтаў адкідаў — гэта не так і шмат, — патлумачыў новы кіраўнік. — Згодна з нормамі, у нас усё нармальна. Да таго ж ёсць і пілавінне, і кара дрэва, — беззваротныя страты. З кругляка мы робім паўбрус, пілуем на дошкі для ўнутранага рынку. А вось палетныя дошкі для паддонаў пастаўляем у Польшчу. За паўгода вытворчасць ўзрасла ў два разы, і заробак падвысіўся да чатырох з паловай мільёнаў. Пакуль, канешне, вакансій хапае, можа, з часам рабочых рук будзе болей. А што да мадэрнізацыі, то мы падалі заяўку на тарцовачны станок і мнагапіл. Праўда, калі іх набудуць, я не магу сказаць.

**Любоў ЛУНЁВА.**

### ТЫМ ЧАСАМ

Беларускі кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) мае намер адрэагаваць на заяву Аляксандра Лукашэнкі наконт забароны на звальненне работнікаў дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў.

Пра гэта паведаміў старшыня БКДП Аляксандр Ярашук.

*"Цяпер мы праводзім кансультацыі. Рашэнні абавязкова будуць прымацца — мы не можам не рэагаваць. Заканадаўства на гэты конт выразна і адназначна кажа, што такога роду рашэнні недапушчальныя",* — падкрэсліў лідар БКДП.

Кангрэс збіраецца звяртацца па дапамогу ў Міжнародную арганізацыю працы. Гэта, лічыць Ярашук, можа істотна ўскладніць і без таго няпростыя адносіны Беларусі з МАП. *"Хай улады ідуць гэтай дарогай і далей, гэта наблізіць жаданыя перамены, бо самы вялікі вораг беларускай улады — гэта яна сама, здольная генерыраваць такія дзікія ідэі ў сферы працоўнага заканадаўства",* — пераканаы прафсаюзны лідар.

Як ставяцца да планаў улад у Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, не вядома. *"Без каментарыяў",* — заявілі ў найбуйнейшым прафсаюзным аб'яднанні краіны.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
4 СНЕЖНЯ 2012 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Бардак... у ельнічку-сасоннічку

*Летась мне давялося расказваць (двойчы) пра дзікі факт нашай рэчаіснасці: пад бокам лукашэнкаўскай рэзідэнцыі ў Астрашыцкім гарадку, за якія 800—900 крокаў ад высознай бетоннай сцяны з дротам-калючкай, прытуліўся самы грандыёзны ў краіне помнік безгаспадарчасці. Ну проста эталонны экзэмпляр... Размова ішла пра закінутую будоўлю Дома творчасці для беларускіх кампазітараў. Цяпер з'явіўся новы прэтэндэнт на тытул прыкрага сімвала.*



Публікацыі пра закапаныя ў зямлю сотні мільёнаў рублёў ніяк не зварухнулі нашу доблесную "вертыкаль" і адмыслова заточаных пад бескампраміснасць дзяржаўных кантралёраў. Ніхто, акрамя кіраўніцтва Саюза кампазітараў, так і не адрэагаваў на жудасныя факты, выкладзеныя ў фотарэпартажы гадовай даўніны. Быццам і не існуе на свеце той "Астрашыцкі Сталінград" — з паўразваленымі сценамі і пражавелымі камунікацыямі... Не хацелася верыць, што абсалютна нікому ў гэтай краіне няма справы да праўдзівай інфармацыі, да вострых (хай сабе і балючых) сігналаў пра існуючыя гаспадарчыя прарэхі. І вось... прарвала.

Гаворка, канечне, не пра Астрошыцы (там усё па-ранейшаму гібее і канчаткова развальваецца), а пра новы, можна сказаць, глабальны паварот улады да саміх прарэхаў. Падумаць толькі, сам Аляксандр Рыгоравіч спусціўся ў цемру нейкіх там падсобак і — вось жах! — зрабіў адкрыццё: "У нас бардак!" Магчыма, упершыню за 18 гадоў адхіліўся ад падрыхтаванага паслужлівай чэляддзю маршруту. Збочыў-такі з гладкага асфальту і ўдыхнуў водар рэальнасці... Электарат, канечне, у захапленні і гатовы пляскаць у ладкі: хіба не бацькоўскі клопат пра гаспадарчыя справы, пра заробкі шараговых правінцыялаў, пра ўсіх нас?! Імправізацыя, канечне, удалая, але наступствы — малазразумелыя. Па ўсім, гарматнае ядзерка накрыла крайняга, хоць той "крайні" — не самы вінаваты ва ўсім чалавек.

Не будзем, аднак, ухіляцца ад тэмы, ад гаспадарчых прарэх, якім — па ўсім — вырашана даць сакрушальны бой. Тым больш што наступны год — на думку лідара нацыі — павінен стаць Годам беражлівасці. Не ведаю, чарговая гэта імправізацыя, навеяная барысаўскімі запалкамі, ці яшчэ нешта — але ідэя-заклік імгненна знайшла сваіх прыхільнікаў. Некаторыя адразу кінуліся ў змаганне за эканомію, бо трэба ж паспець, а то які апакаліпсіс (барані Божа!) накрые ўсё медным тазікам... Карацей, тэлефануе адзін такі няўрымслівы са Ждановічаў і кажа: "У нас тут непадалёку — у ельнічку-сасоннічку — аграмадны эканамічны патэнцыял, парослы мохам і нікому не патрэбны. Уяўляеце, чатырохпавярховая цагляная будыніна на 150 метраў — без вокнаў і дзвярэй — прападае задарма. Каторы год стаіць сярод лесу, і нікому да яе ніякай цікавасці. Мясцовыя гадаюць: што за даўгабуд такі, і хто той багацей, што з такою лёгкасцю раскідваецца мільёнамі грошай? Адны мяркуюць, што аб'ект-халабудзіна — уласнасць Беларускага прафсаюза і што нібыта тут меліся адкрыць санаторый. Іншыя кляцць: маўляў, гэта філіял Беларускай




кінастудыі, і здымаць тут будуць рэтра-кіно — гатовая ж натурздымачная пляцоўка... Адным словам, забыты ўсімі даўгабуд — сапраўдны лясны прывід... Хай бы хто навёў тут парадак, — падвёў рысу заклапочаны народны кантралёр, — ці хоць бы прыехаў які карэспандэнт ды падзівіўся на ўвесь гэты бардак..."

Ну як адмовіць чалавеку, які гэтак шчыруе за эканомію і беражлівасць? Канечне, ногі ў рукі — і барзджэй на тыя Ждановічы... Ва ўмоўленым месцы — паблізу санаторыя "Крыніца" — знаёмлюся з мужчынам гадоў шасцідзесяці. "І як вас называць, шаноўны чалавек?" — пытаюся ў незнаёмца. "Завіце мяне проста... сталкер", — агарошвае той. "Ну, калі сталкер, — жартую я, — то і вядзіце ў лясныя нетры, дзе не ступалі ногі дзяржаўных кантралёраў".

І мы рушылі па лясной дарозе, усланай прэлым лісцем... Ад шасейкі, што вядзе ў бок Сёмкава і паабапал якой розныя дзяржаўныя і недзяржаўныя сядзібы, да нашага даўгабудупрывіда не так і далёка — меней за кіламетр. Дарога тая мо і была некалі дарогай, а цяпер дык проста лясная сцяжына. Адразу відаць, што па ёй даўно ніхто ні ездзіў, праўда, адзін след ад пратэктара — па ўсім вялікагрузнай машыны — мы ўсё ж прыкмецілі. "Дзіўна, — уразіўся сталкер, — яшчэ заўчора ніякага следа не было. Але што дзівіцца?.. Аб'ект ніхто не ахоўвае — можа, хто і пакваліўся на дабро. Там і трубы, і розныя перакрыцці, і арматура..."



Але вось і сам аб'ект у лясным тумане: даўжэзны чытырохпавярховы цагляны гмах з чорнымі аконнымі праёмамі... Тое, што гэта забыты ўсімі даўгабуд — ніякага сумнення. Па-першае, колішняя будаўнічая пляцоўка па ўсім перыметры зарасла падлескам — дрэўцамі па 5—6 гадоў мінімум, і яны літаральна ад самага падмурка аплялі ўсю будыніну. Шырокія праёмы ў нізавыя, цокальныя памяшканні — насцеж; дзверы дзе паламаныя, а дзе іх і ўвогуле няма; вакол сцен — парослыя мохам і хмызам траншэі, груды бетонных канструкцый, жалеззе... І напраўду змахвае на другі "Сталінград", толькі не астрашыцкі, а ждановіцкі...

Прабіраюся ў "чэрава" будыніны, каб зафіксаваць на фотакамеру "інтэр'ерчык": на першым паверсе адкрытыя траншэі з пракладзенымі камунікацыямі, некаторыя сцены паўразваленыя, вокны забіты дошкамі... Падымацца па лесвіцы рызыкоўна — у цемры можна і шыю зламаць. Тым часам сталкер паказвае на знешнім баку сцяны фарбай напісаны інвентарны нумар аднаго з карпусоў. "Значыцца, — даводзіць ён мне, — аб'ект у кагосьці на балансе. І, заўважце, гэткія ж нумары на сценах астатніх памяшканняў".



Абыходзім усю тэрыторыю, якая нагадвае не то закінутую партызанскую базу, не то паваенную пагранічную заставу — тут і сапраўды натурпляцоўка для кінастудыі. У спалучэнні з векавымі хвоямі і елкамі — "лагер" што трэба... Прыкідваю, колькі ж мільёнаў ці нават мільярдаў рублікаў тут асела без аніякай карысці. Ды, відаць, у разы болей, чымся пахавана ў скляпеннях астрашыцкага даўгабуда. Вось дзе сапраўдны "эталонны" экзэмпляр безгаспадарчасці! Але каго гэта хвалюе, каму тое цікава?..

Хіба што самому Лукашэнку, калі ён раптам адхіліцца ад звыклага маршруту і заверне ў гэты маляўнічы куток ждановіцкага ляска, балазе побач жа ўсё — пад бокам рэзідэнцыі...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

НАПЯРЭДАДНІ

## У трывожным чаканні

*На 11 гадзін раніцы 5 снежня судовыя выканаўцы прызначылі прымусовае высяленне царквы "Новае жыццё".*

Лідар Аб'яднання супольнасцяў поўнага Евангелля Беларусі Вячаслаў Ганчарэнка планаваў абмеркаваць сітуацыю вакол будынка царквы з кіраўніком Мінгарвыканкама Мікалаем Ладуцькам. Больш за тое, у аддзеле зваротаў грамадзян Мінгарвыканкама паведамілі, што, нягледзячы на шчыльны графік старшыні, сустрэча можа адбыцца, але Ганчарэнку так ніхто і не паклікаў.

Справа ў тым, што Мінгарвыканкам, які некалі і выдзяляў царкве будынак, адмяніў сваю пастанову. Далейшыя рашэнні судоў аб высяленні базіруюцца менавіта на пастанове гарадскіх улад. Варта адмяніць гэтае рашэнне — і ўсе праблемы адразу знікнуць. Але на тое мінскія ўлады не маюць палітычнай волі.

Вернікі ў трывожным чаканні. Яны моляцца і не пакідаюць сваю царкву дзень і ноч.

*"Мы не зрабілі нічога, за што з намі можна было б так паступаць. Уся наша дзейнасць накіравана на тое, каб убачыць Божую Беларусь — краіну без алкагалізму і наркаманіі, без сірочых дамоў і турмаў. Нашы інтарэсы не палітычныя і не эканамічныя. Нашы інтарэсы — гэта чалавечыя душы, якія маюць патрэбу ў гаючым Божым дакрананні",* — заявіў пастар царквы Вячаслаў Ганчарэнка падчас адной з апошніх пропаведзяў.

ДЫПКУР'ЕР

## Вайсковы аташэ Германіі адклікаены з Мінска

*Міністр абароны Германіі Томас дэ Мезьер пасля нарады ў замежнапалітычным ведамстве краіны прыняў рашэнне закрыць штаб вайсковага аташэ пры Пасольстве ФРГ у Мінску.*

Усе супрацоўнікі апарату былі адкліканы з беларускай сталіцы ў нядзелю, 2 снежня. Паводле інфармацыі агенцтва DPA, улады Германіі палічылі немагчымым далейшае вайсковае супрацоўніцтва з рэжымам Аляксандра Лукашэнкі ў сувязі з шматлікімі выпадкамі парушэння правоў чалавека ў Беларусі.

Рашэнню па спыненні місіі вайсковага аташэ ў Мінску папярэднічалі дыпламатычныя крокі абедзвюх краін. У верасні 2012 года ўрад Германіі канстатаваў адсутнасць прагрэсу ў Беларусі ў пытанні праследу іншадумцаў і абмежаваў вайсковае супрацоўніцтва. У адказ Мінск зусім спыніў кааперацыю з бундэсверам, паведамляе Deutsche Welle.

Створаны ў 1993 годзе апарат вайсковага аташэ пасольства Германіі ў Мінску назіраў за працэсамі развіцця і рэфармавання беларускай арміі і яе ўзаемадзеяннем з узброенымі сіламі іншых дзяржаў і міжнародных структур бяспекі — СНД, НАТА, АБСЕ і ААН. Таксама ён падаваў беларускаму Міністэрству абароны інфармацыю па вайсковых пытаннях, што тычацца Германіі.

ЛІКБЕЗ

## Страшна?

*На пад'ездах жылых дамоў у Кастрычніцкім раёне Віцебска сталі з'яўляцца аб'явы, якія папярэджваюць, што тыя, хто не заплаціў за кватэру да 26-га числа, будуць адключаны ад камунальных паслуг. Унізе — спасылка на пастанову Савета міністраў №1466.*

Жыхары Віцебска, азнаёміўшыся з новымі захадамі супраць даўжнікоў, звярнуліся па кансультацыю да праваабаронцаў. Гэта што цяпер: на пару дзён спознішся з аплатай — і тут жа табе адключаць і ваду, і электрычнасць?..

Як высветлілася, супрацоўнікі ЖКГ напісалі ў аб'явах, мякка кажучы, няпраўду. Паводле пастановы №1466, спыніць пастаўку сваіх паслуг камунальшчыкі сапраўды могуць. Але не так хутка: толькі тады, калі чалавек не плаціць за кватэру самае малае 2 месяцы. Потым яму мусяць дасласць папярэджанне, і на працягу 5 дзён чалавек яшчэ можа паспець заплаціць. І вось толькі тады можа ісці гаворка пра адключэнне.

Пазіцыя ЖКГ зразумелая: колькасць даўжнікоў стабільна застаецца вялікай, запазычынасці растуць, відаць, камунальнікі вырашылі застрашыць людзей "у якасці прафілактыкі".

Супрацоўнікі ЖКГ і раней спрабавалі ўплываць на неплацельшчыкаў. На пад'ездах расклейвалі ўлёткі з прозвішчамі жыхароў, у якіх найбольшая запазычанасць, іх прозвішчы друкавалі і ў дзяржаўных СМІ. Спрабавалі нагадваць пра даўгі па тэлефоне — тройчы на дзень адмысловая сістэма дазвоньвалася да даўжнікоў і папярэджвала пра адміністрацыйную адказнасць. Яшчэ малявалі карыкатуры і выраблялі "Дошкі ганьбы", не кажучы пра прымусовае высяленне праз суд. Але да спроб падману і шантажу раней не даходзіла.

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Беспадстаўная трывога

***Ці праўда, што з мінскіх вуліц канчаткова знікнуць палаткі, якія гандлююць садавінай і гароднінай? Як па мне — дык гэта вельмі зручныя для гараджан кропкі гандлю. Не кожны ж даедзе ў гіпермаркеты, дзе заўсёды чэргі. А так літаральна ля дома заўсёды можна купіць ці той памідор, ці мандарыны... Але гандляры кажуць, што ўжо такога не будзе, і што іх перавядуць на рынкі.***

**Ірына РАДЗЮК,**
**Мінск.**

Права арганізаваць плодаагароднінную гандлёвую кропку прадпрымальнікі атрымлівалі на аўкцыёнах. Апошні такі аўкцыён адбыўся 13 лістапада. Згодна з умовамі, тэрмін дамовы арэнды на падобныя "адкрытыя пляцоўкі" складае 5 гадоў. Такім чынам, у бліжэйшую пяцігодку латкі і палаткі з вуліц сталіцы не знікнуць. Калі, вядома, не здарыцца нейкі форс-мажор, якім будуць перакрэслены ўсе папярэднія дамовы і законы.

ПО СЛУЧАЮ...

# Часы чиновника

*Что объединяет Беларусь с Россией и Китаем, кроме того,что обе эти страны являются нашими главными кредиторами? Вслед за ними у нас входит в моду охота блогеров за дорогими часами на чиновничьих запястьях.*

У россиян сейчас наблюдается пресыщение этой охотой. Из-за обилия чиновников, любящих элитные аксессуары, общественный глаз замылился, народ устал реагировать на непозволительную роскошь, которую позволяют себе народные слуги. Тем более что переплюнуть Владимира Ресина, бывшего заместителя мэра Москвы, а ныне советника патриарха Кирилла и депутата Госдумы, еще долго никому не удастся. Шутка ли, он был замечен с часами стоимостью миллион долларов! Поэтому теперь, чтобы удостоиться упоминания в СМИ, чиновнику недостаточно иметь пару дорогих часов. Нужно еще совершить какую-нибудь глупость.

Как это произошло недавно с Александром Волковым, президентом Удмуртии. На плакате с его фотографией, где президент держал на руках котенка леопарда, блогеры обнаружили на его запястье часы, цена которых превышала 100 тысяч долларов. Случай мог бы остаться незамеченным, не вздумай удмуртские власти исправить ситуацию. Для этого были сфотографированы какие-то простенькие часики и... наклеены поверх тех, крамольных. А дотошный блогер сковырнул их. Тогда об Александре Волкове наконец заговорили по всей России.

Но скоро российским блогерам надоест. Ведь за их разоблачениями ничего не следует. На них не обращают внимания, чиновники продолжают оставаться в своих креслах как ни в чем не бывало.

Не то в Китае. Здесь подобные разоблачения часто сопровождаются последствиями. Не всегда для чиновников, иногда страдают сами разоблачители — китайские власти блокируют их страницы в социальных сетях или даже заключают в тюрьму. Но и чиновникам тоже достается. Так, появившаяся в 2008 году в социальной сети фотография одного из чиновников города Наньцзин, у которого на руке были видны роскошные часы, привела к началу официального расследования, в результате чего его посадили в тюрьму на 11 лет за взяточничество. Уже в этом году жертвой блогеров стал глава Бюро по обеспечению безопасности в одной из провинций. Его вызвали на место страшной аварии, в результате которой погибли 36 пассажиров автобуса. По какой-то причине на фотографии, сделанной репортером на месте происшествия, он запечатлен с дурацкой улыбкой на лице. Эта фотография быстро распространилась в сети, приведя в бешенство многих пользователей интернета. Через пару дней личность улыбающегося человека на фотографии установили, после чего в сети нашлись еще несколько его фотографий, на которых видно, что, участвуя в пяти разных мероприятиях, он каждый раз появлялся с новыми роскошными часами на руке. Пользователи немедленно выложили эти фотографии в популярной социальной сети. Откуда, с негодованием спрашивали граждане, у китайского чиновника, получающего 1500 долларов в месяц, взялись деньги на часы стоимостью в 40.000 долларов? Дисциплинарная комиссия завела в отношении чиновника расследование по обвинению во взяточничестве.

Интересно, что официальное информационное агентство "Синьхуа" в ряде случаев положительно отзывалось о разоблачительной деятельности блогеров. В целях борьбы с коррупцией премьер Китая весной этого года запретил покупать и дарить чиновникам товары класса "люкс". Кроме машин и часов в этот список попал даже элитный алкоголь.

А что у нас? Пару недель назад внимательные к деталям белорусские блогеры идентифицировали часы на запястье премьер-министра Беларуси Михаила Мясниковича. Тоже, как оказалось, не дешевые — их стоимость в белорусском магазине составляет 37 тысяч долларов. Что вдвое дороже часов, которые были замечены у Александра Лукашенко в 2009 году, — всего-то за 17 тысяч. Надо заметить, что китайские чиновники жестко соблюдают иерархию — подчиненный не может носить более дорогие часы, чем у его начальника. В этом отношении, как видно, мы скопировали российскую модель, где царят полное разнообразие и вольность.

Кроме того, как и в России, громкое разоблачение не имело в нашем случае никаких последствий. Общественность пошумела, власть промолчала, история стала забываться.

Когда она еще активно обсуждалась, многие, кстати, встали на защиту премьер-министра. Причем безотносительно своих политических убеждений. Говоря о том, что "неприлично заглядывать в чужой кошелек" или высказывая предположение, что эти часы могут быть "просто чьим-нибудь подарком".

Наверное, так думают люди прекрасных душевных качеств, милосердные и терпимые. Однако не стоило бы путать чиновников с рядовыми гражданами. С них совсем другой спрос. Кошелек чиновника — лучший индикатор его коррумпированности или, наоборот, порядочности. Чтобы этот индикатор работал, кошелек должен быть прозрачен для общественного глаза. Иначе как граждане могут узнать, работает его обладатель ради общего блага или дает незаслуженные преференции кому-то, кто лучше других его одарил, в ущерб остальным?

С этой же целью в большинстве стран мира законодательно регулируется получение чиновниками подарков. Например, в некоторых штатах США им запрещено принимать вообще какие-либо подарки, даже рекламные авторучки, блокноты и т.п. Поскольку их тоже раздают не просто так, а с определенной целью. Инициаторы подобного запрета приводят пример из медицинской сферы: доктора чаще прописывают пациентам те лекарства, которые им лучше известны, благодаря распространяемой рекламной продукции фармацевтических компаний. Схожим образом, рассуждают они, член градостроительной комиссии, у которого рядом с телефоном лежит блокнот с реквизитами строительной компании "икс", будет помнить именно эту компанию, когда она примет участие в тендере. Что может склонить его к вынесению решения в ее пользу.

В таких штатах в предрождественский сезон, когда все дарят друг другу подарки, на дверях чиновничьих кабинетов вывешивают табличку с текстом: **"Мы были рады служить вам в течение года, и ваше доверие очень важно для нас. Для дальнейшего сохранения общественного доверия и соблюдения принципов этики мы ввели запрет на любые подарки работникам нашего ведомства. Мы будем очень благодарны, если вы отнесетесь к этому с пониманием".**

Законодатель в остальных штатах более терпим к дарителям и чиновникам, но ограничивает максимальную стоимость подарка — она колеблется от 20 до 50 долларов. (Причем к дарителям относятся даже родственники и друзья, если их можно заподозрить в деловой заинтересованности.) Толкователи закона объясняют, что дело тут не столько в цене подарка. Дело в том, что любой подарок содержит в себе либо благодарность за оказанную услугу, либо ожидание услуги, которая будет оказана в будущем. Тогда как чиновник не имеет права оказывать содействие отдельным физическим или юридическим лицам из личных соображений.

Соответствующий ирландский закон предупреждает, что любой подарок, принятый чиновником от лица, имеющего или желающего получить государственный заказ, автоматически приравнивается к взятке, пока не будет доказано обратное. Нарушение правил получения подарков государственным служащим во всех остальных случаях также влечет за собой штраф или тюремное заключение.

В отличие от большинства стран мира, в нашей стране нет кодекса этики и служебного поведения государственного служащего, хотя Генпрокуратура еще три года назад выступила с инициативой его разработки. Для профилактики и сокращения коррупционных преступлений среди чиновников.

Тем не менее существует закон "О государственной службе в Республике Беларусь", в котором прописаны ограничения, связанные с госслужбой. В частности, государственный служащий не вправе: **"Принимать имущество (подарки) или получать другую выгоду в виде услуги в связи с исполнением служебных обязанностей, за исключением сувениров, вручаемых при проведении протокольных и иных официальных мероприятий. Полученные государственными служащими при проведении протокольных и иных официальных мероприятий сувениры, стоимость которых превышает пять базовых величин, передаются в доход государства по решению комиссии, создаваемой руководителем государственного органа, в котором государственный служащий занимает государственную должность".**

Нарушивший это требование государственный служащий, согласно закону, подлежит освобождению от занимаемой должности. Так что все серьезно. По крайней мере на бумаге.

Но раз мы взялись копировать российскую модель подчеркивания своего статуса, близкую к модели примитивных племен, а не европейскую (канцлер Германии Ангела Меркель, например, носит часы за 89 евро), то ничего не помешает белорусским чиновникам взять на вооружение их отговорки. Можно отрицать наличие самого предмета — вам померещилось, можно уверять, что они стоят совсем не так много или что их подарил старый школьный товарищ, который совсем-совсем не имеет никаких деловых интересов, осуществлению которых мог бы помочь чиновник. А то и вовсе никак не реагировать на нас, рядовых граждан. В конце концов, не мы его назначали на высокую должность...

**Дмитрий ГАЛКО.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Ля вады ды не напіцца...

*Затрыманы быў начальнік аддзялення ўпраўлення дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК па Мінску.*

Яго абвінавачваюць у злоўжыванні службовым становішчам і бяздзейнасці службовай асобы.

Пра гэта паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС Беларусі Альберт Ляговіч.

*"У дачыненні да яго распачата крымінальная справа",* — сказаў Альберт Ляговіч.

На момант затрымання былы "фінансавы паліцэйскі" са сваёй адказнай пасады ўжо звольніўся.

ІНІЦЫЯТЫВА

## Змаганне рублём

*МУС прапануе павысіць цэны на алкаголь*

Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі распрацавала змены ў заканадаўства, накіраваныя на абмежаванне даступнасці алкаголю.

У прыватнасці, МУС прапануе *"павысіць кошт алкагольнай прадукцыі, павялічыць да 21 года ўзрост, па дасягненні якога можна набываць спіртное, забараніць трансляцыю рэкламы піва і слабаалкагольных напояў на тэлебачанні і радыё з 7.00 да 22 гадзін, забараніць схаваную рэкламу, якая апошнім час атрымала шырокае распаўсюджванне",* — паведамілі ў міністэрстве.

### ДАРЭЧЫ

За знаходжанне ў п'яным стане і распіццё алкагольных напояў у грамадскіх месцах у гэтым годзе да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута больш за 220.000 правапарушальнікаў, у медвыцвярэзніку пабывалі звыш 43 тысяч чалавек. На прымусовае лячэнне ад алкагалізму ў ЛПП было змешчана каля 4,5 тысячы грамадзян, прычым больш за тысячу з іх — жанчыны. Але пакуль усе гэтыя меры вынікаў не даюць.

Народная Воля http://www.nv-online.info 4 СНЕЖНЯ 2012 г.

СВЕЦКАЯ ХРОНІКА

# У Мінску абяруць самага «сапраўднага італьянца»

*У інтэрнэце ў тройку лідараў уваходзяць беларускі школьнік, вундэркінд **Генадзь Караткевіч** (у гэтым годзе геній праграмавання пра грымеў на ўсю Італію. З Міжнароднай алімпіяды па інфарматыцы, якая праходзіла ў гэтай краіне, ён прывёз залаты медаль), шэф-повар рэстарана "Спяваючыя фантаны" **Іньянцыя Роза** і былы амбасадар Беларусі ў Італіі **Аляксей Скрыпко.***




"Людзей, дзякуючы якім Беларусь і Італія насуперак геаграфіі сталі бліжэй адна да адной, вызначаць напярэдадні Новага года. Намінацыя L'Italiano vero ("Сапраўдны італьянец") арганізавана рэстаранам высокай італьянскай кухні Falcone пры падтрымцы амбасады Італіі ў Мінску. Галасаваць за намінантаў будуць не толькі члены прафесійнага журы на чале з прадстаўніком амбасады, але і карыстальнікі інтэрнэту.

Намінацыя L'Italiano vero праводзіцца ў гэтым годзе ўпершыню, але арганізатары маюць намер зрабіць яе традыцыйнай.

*"Ідэя нарадзілася ў сувязі з гістарычным юбілеем, які адзначаецца ў гэтым лістападзе,* — тлумачаць арганізатары мерапрыемства. — *Роўна 500 гадоў таму Францыск Скарына атрымаў званне доктара свабодных навук і медыцыны ў Падуанскім універсітэце і, можна сказаць, першым праклаў сцежку для народнай дыпламатыі паміж дзвюма краінамі".*

У шортлісце намінацыі — 10 "італьянскіх беларусаў". Некаторыя з іх даволі вядомыя, пра іншых, магчыма, шырокая публіка ведае няшмат. Але ўсе яны ці сімвалізуюць сабой Італію тут, у Мінску, ці зрабілі так, што пра Беларусь загаварылі на Апенінскім паўвостраве.

Намінацыя адбудзецца ў рамках Дзён П'емонта, якія пройдуць у Мінску на пачатку снежня і скончацца ***8 снежня*** гала-вячэрай ад знакамітага італьянскага шэф-повара Марка Сака, уладальніка дзвюх зорак Michelin.

## Хто ў спісе намінантаў?



**Уладзімір Грыдзюшка,** гендырэктар Вялікага тэатра оперы і балета.

*"Ніводны тэатр оперы і балета не абыходзіцца без твораў вялікіх італьянскіх майстроў,* — абгрунтоўваюць свой выбар арганізатары намінацыі. — *Але адыходзячы год знамянальны, паколькі Мінск стаў месцам правядзення найбуйнейшага Міжнароднага конкурсу выканаўцаў італьянскай оперы (Competizione dell'opera). Такім чынам, наш горад апынуўся ў кагорце оперных сталіц Еўропы, дзе да гэтага праводзіўся гэты конкурс"*.



**Дзяніс Дудзінскі,** саліст групы Da Vinci. Група, якая нясціпла абрала сабе імя генія эпохі Адраджэння і нечакана для беларускага слухача заспявала на італьянскай мове. Заспявала даволі паспяхова. Прынамсі, на беларускай эстрадзе ў Da Vinci канкурэнтаў няма і не прадбачыцца. А ў Італіі, па іх уласных словах, яны *"прыцягнулі да сябе ўвагу італьянскіх радыёстанцый і пабілі італьянскае тэлебачанне сваім дзёрзкім кліпам у крымінальных танах на песню "Bum-bum".*



**Дар'я Дубровіна**, майстар цырульніцкага мастацтва. У чэмпіянаце свету па цырульніцкім майстэрстве-2012, які ў гэтым годзе праходзіў у Мілане, у самым цэнтры сусветнай моднай індустрыі, прынялі ўдзел прадстаўнікі 52 краін. Дар'я Дубровіна прывезла на радзіму сярэбраны медаль, здзівіўшы журы сваім уменнем спраўляцца з непаслухмянымі валасамі мужчын.

*"У 2011 годзе я перамагла на чэмпіянаце свету ў Мілане, заваяваўшы золата і ўпершыню апярэдзіўшы заканадаўцаў моды італьянцаў",* — дадае Даша.



**Сяргей Стэльмашонак**, мастак. Вядомы як *"мастак, які малюе катоў",* у гэтым годзе ўдала прымеркаваў сваю выставу ў кінатэатры "Перамога" да Сусветнага тыдня італьянскай мовы, які штогод па ўсім свеце праводзіць Міністэрства замежных спраў Італіі. На гэты раз намаляваныя кошкі былі дапоўнены фатаграфіямі (таксама кошак), якія аўтару пашчасціла зрабіць падчас падарожжаў па Італіі.



**Генадзь Караткевіч,** вундэркінд. З Міжнароднай алімпіяды па інфарматыцы, якая праходзіла ў Італіі, ён прывёз залаты медаль.

**Тамара Шчукіна,** кіраўнік Міжнароднага грамадскага дабрачыннага аб'яднання "Свет для дзяцей". Італія — адна з першых краін, якая адгукнулася на чарнобыльскую бяду беларусаў. З тых часоў больш за 350 тысяч беларускіх дзяцей (колькасць насельніцтва Магілёва ці Віцебска!) пабывалі на аздараўленні на Апенінскім паўвостраве хаця б адзін раз. "Свет для дзяцей" супрацоўнічае з 20 італьянскімі дабрачыннымі арганізацыямі, якія апекуюць больш за 27 школ-інтэрнатаў і дзіцячых дамоў, аказваючы ім істотную матэрыяльную дапамогу.



**Іньянцыя Роза,** шэф-повар рэстарана "Спяваючыя фантаны". Патрэніраваўшыся на Біле Клінтане, Джані Версачэ і Арнольдзе Шварцэнэгеры (усе гэтыя знакамітасці ў розны час пакаштавалі яго стравы), італьянскі шэф-повар ужо шмат гадоў развівае добры густ мінчан.

**Фёдар Міхасенка, з**агадчык кафедры італьянскай мовы ў Лінгвістычным універсітэце. Складана пераацаніць ролю іняза ў тым, што італьянцы і беларускі так добра адзін аднаго разумеюць. На дадзены момант у Мінску каля 800 студэнтаў вывучаюць мову Дантэ.



**Павел Кухта,** гітарыст. Выпускнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, а ў цяперашні час — саліст Белдзяржфілармоніі, парваў струны душы журы Міжнароднага конкурсу гітарыстаў імя Мікеле Піталугі ў італьянскім горадзе Александрыя. Упершыню ў гісторыі конкурсу беларускі гітарыст стаў не толькі ўдзельнікам фіналу, але і лаўрэатам трэцяй прэміі.



**Аляксей Скрыпко,** былы амбасадар Беларусі ў Італіі (2002—2008). Пры ім беларуска-італьянскія адносіны дасягнулі свайго росквіту. У час яго знаходжання ў Рыме адбывалася ўсё: і важныя дзяржаўныя і дзелавыя візіты, і значныя культурныя мерапрыемствы. Складана пералічыць усе выставы, гастролі, творчыя абмены і публікацыі гэтага перыяду. У сваіх інтэрв'ю ён часта казаў аб блізкасці італьянцаў і беларусаў па духу: *"Я выявіў, што беларусы і італьянцы шмат у чым падобныя, у нас блізкія, я б нават сказаў, родасныя душы. Дарэчы, і італьянцы лічаць, што беларусы падобныя да іх. Італьянцы і беларусы — адкрытыя, гасцінныя людзі, спагадлівыя і мяккія".*

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ПРИГЛАШЕНИЕ

# *Александр Анисимов знает, как сделать жизнь успешной*

*Прославленный дирижер Александр Анисимов вместе с друзьями каждый год 31 декабря ходит... Нет, совсем не в баню.*

— Пять лет назад в Белгосфилармонии зародилась замечательная традиция предновогодних концертов Государственного академического симфонического оркестра, — *рассказывает народный артист Беларуси, главный дирижер Государственного академического симфонического оркестра Республики Беларусь.* — Нужно сказать, что не только публика, наши постоянные почитатели, но и артисты всегда с волнением и радостью ждут этой новогодней встречи.

Как и в прошлом году, вечер, который начнется в 18 часов, рассчитан на 2 часа 30 минут. Мы уверены, что этого времени хватит, чтобы зарядиться хорошим настроением. Многие мои друзья, постоянные слушатели этих программ утверждают (и у меня нет основания им не доверять), что с тех пор, как они стали посещать наши новогодние программы, их год (бизнес, личная жизнь) проходит особенно успешно. И в этом они "винят" нас, белорусский симфонический оркестр, особенную новогоднюю атмосферу филармонических вечеров.

Я счастлив, что с нашей легкой руки хорошее настроение и удача не покидают наших слушателей в течение всего года! Присоединяйтесь!

**Полина ПЛАТОНОВА.**

ЧУЛІ?

# *У Беларусі расце колькасць разводаў*

*Пра гэта сведчаць даныя, апублікаваныя Белстатам.*

Так, у студзені—кастрычніку 2012 года скасавана амаль 33,05 тысячы шлюбаў — разводаў стала больш на 6,4% у параўнанні са студзенем—кастрычнікам 2011 года. У студзені—кастрычніку 2012 года на 1000 шлюбаў прыходзіўся 501 развод!



***

***Напэўна, і сярод чытачоў "Народнай Волі" ёсць тыя, чый шлюб распаўся. Распавядзіце, чаму вы не змаглі захаваць каханне і вырашылі развесціся. І хто вінаваты ў тым, што так здарылася?***

***Самыя шчырыя гісторыі апублікуем на старонках "Народнай Волі".***

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ПРИЯТНОГО АППЕТИТА!

*Арно ГОТЬЕ, французский шеф-повар:*

# «Мужчинам идет сладкое!»

*Принято считать, что кондитерские изыски обычно больше интересуют прекрасных дам. Редкий мачо признается, что имеет слабость к шоколаду или мягкой карамели. Многие способны разве что на "похищение" сладостей из домашней бомбоньерки. Многие, но только не специальный гость компании "Ресторация" французский шеф Арно Готье!*



На своей родине шеф Арно имеет известность, которой позавидовали бы многие артисты. Повара хотят у него учиться, а гурманы — угощаться его десертами. Кондитер за год обучает около 3—4 тысяч кондитеров по всему миру! В Японии, Америке, Украине и везде, где люди любят сладкое и понимают, чего стоит настоящее кондитерское искусство, шефа Арно знают в лицо.

В Беларусь господин Готье приехал во второй раз по специальному приглашению компании "Ресторация". Миссия француза — обучить отечественных кондитеров секретам мастерства. Полюбоваться итогами напряженной работы смог репортер "Народной Воли".

— *Я делился с участниками мастер-класса теми знаниями, которые могут пригодиться им в дальнейшей работе*, — рассказал мастер Арно "Народной Воле". — *Большинство рецептов, с которыми знакомлю учеников, не меняются от страны к стране. В Беларуси я приготовил то же, что, например, в Японии или Украине.*

Воплотить рецепты, которыми французский кулинар удивлял профессионалов, в домашних условиях вряд ли получится. Слишком уж непростыми кажутся его технологии и нетривиальными продукты. Например, вместе с белорусскими учениками французский профи воссоздал свой авторский рецепт — пирожное с муссом из каштанов. Звучит заманчиво? Возможно, скоро вкуснейшие новинки от шефа можно будет попробовать в отечественных кондитерских и кафе. Ведь именно такова была цель участников мастер-класса — научиться новым приемам и применить их на родном производстве.

Кстати, на трехдневное обучение приехали не только минские специалисты. Свой диплом домой увезла кондитер из Гродно. Есть надежда, что в скором времени белорусы смогут наслаждаться капкейками с лимоном и пролине, карамельными маффинами, фисташковым "поеном" и другими чудными произведениями кулинарного искусства, на которые белорусских колег вдохновил Арно Готье.

— *Мои десерты не связаны с какими-то особенными историями. Рецепты, которые я показывал во время мастер-класса, иллюстрируют нашу креативность, творческую жилку,* — признался господин Готье. — *Всегда нужно придумывать что-то новое: соединять запахи, менять текстуры, экспериментировать со вкусами. Все для того, чтобы нашим покупателям и гостям было вкусно!*

Во всем мире самыми приятными словами похвалы в адрес любого блюда является фраза "как у мамы". После дегустации десертов от шефа Арно становится ясно, что у определения "вкусно" есть еще один полюс. Он, конечно, не такой домашний, зато очень изысканый.

— *Всегда стремлюсь сохранить традиционную основу рецепта, ту, которой меня обучали учителя,* — говорит француз. — *Я лишь немного совершенствую вкусы, модернизирую рецепты, чтобы быть современным.*

*В нашем ресторане пять шефов. Когда кто-то из нас придумывает новое сочетание, мы устраиваем что-то вроде консилиума — пробуем, обсуждаем. И, безусловно, очень важно мнение покупателей. Если десерт популярен, значит, все отлично.*

Не так давно в Беларусь приезжала другая звезда французского кондитерского мира **Валентина Штефано**. На встрече с журналистами француженка украинского происхождения призналась, что больше всего любит делать конфеты, хотя и получила звание лучшего создателя миндальных пирожных.

— *Мне очень нравится ремесло кондитера, но я всегда оставляю его на работе,* — улыбаясь, комментирует Арно Готье. — *Дома занимаюсь исключительно соленостями.*

Кстати, на одном из мастер-классов шеф внезапно... влюбился. В Украине Арно Готье встретил свою невесту, которая и угощает его разносолами. Так что в Минске шеф пребывал в прекрасном расположении духа и раздавал полезные советы направо и налево.

— *Мужчинам идет сладкое!* — пожалуй, главный из них.

**Мария МАЛЕВИЧ.**



ШОУ-БІЗНЕС



# *Анжаліка Агурбаш з'ехала ў Талін*

*Днямі спявачка запісвала там кліп на песню "Белы снег", якую яна спявае ў дуэце з маладым эстонскім артыстам Уку Сувістэ, які мае тытул самага сексуальнага мужчыны Эстоніі.*

У 2010 годзе Уку браў удзел у вядомым конкурсе "Новая хваля", дзе заняў 3-е месца.

*"Дуэт з Уку мы планавалі запісаць даўно, але на іншую песню. Так атрымалася, што ён пачуў гэтую песню, яна яму вельмі спадабалася і мы вырашылі выканаць яе дуэтам",* — распавяла парталу Delfi Агурбаш.

Па словах Сувістэ, кліп, які здымалі ў Таліне, будзе гатовы да сярэдзіны снежня і яго можна будзе ўбачыць на музычных каналах.

Нагадаем, што спявачка не так даўно развялася з мужам, бізнесменам Мікалаем Агурбашам. На пачатку кастрычніка яна прыязджала ў Мінск на сустрэчу з Філарэтам з нагоды развянчання. Напрыканцы снежня пара зноў павінна прыехаць у Мінскае епархіяльнае ўпраўленне за дакументамі аб прызнанні шлюбу несапраўдным.

**Вера ВІР.**

СЫШОЎ З ПОДЫУМА

# *Справу Сашы Варламава накіравалі ў суд*

*Меру стрымання мадэльеру пакінулі ранейшай — ён застаецца пад вартай.*

Але пакуль дакладна не вядома, у якім судзе будзе разглядацца справа. Як паведамляюць у Генпракуратуры, справу Варламова накіравалі ў Мінскі гарадскі суд *"для вызначэння падсуднасці".*

**Аліна ВЕТРАВА.**

ЭКСКЛЮЗИВ

*Андреа ФЕРРЕОЛЬ:*

# «Для съемок в “Большой жратве” мне пришлось поправиться на 20 килограммов»

*Рыжеволосым к лицу зеленый цвет. По всем приметам, Андреа Ферреоль это прекрасно известно. В своем элегантном “яблочном” пиджачке легендарная французская актриса, прилетавшая недавно в Минск на кинофестиваль “Лістапад”, выглядела чудесно. Правда, в ответ на комплименты отшучивалась: “Второй день в нем хожу: во время перелета потерялся багаж. Так что буду благодарна, если кто подарит дубленку или пижаму”.*

*Одарить кинодиву новым гардеробом никто в Беларуси не рискнул. Зато сама актриса сделала белорусским зрителям воистину царский подарок — презентовала отреставрированную в прошлом году в новом качестве ленту культового немецкого режиссера Фассбиндера “Отчаяние” (“Путешествие в свет”). А также рассказала “Народной Воле”, как рождались самые знаковые роли.*

## «Каждому в жизни дается шанс»

— Я начинала как театральная актриса. Параллельно снималась на телевидении. И в один прекрасный момент мне просто повезло: в 1973 году меня пригласили сняться в фильме “Большая жратва” режиссера Марко Феррери. У каждого человека бывает такой шанс в жизни, подарок судьбы. Фильм произвел фурор, попал в Канны, открыл мне дорогу в кино не только во Франции, но и на европейском уровне. Я стала знаменитой.

## «Марчелло Мастрояни пообещал: «Я к твоей попе не притронусь»

— Моими партнерами на съемочной площадке были четыре мэтра: Марчелло Мастрояни, Уго Тоньяцци, Мишель Пикколи, Филипп Нуаре.

У каждого из них я чему-то научилась. Например, Тоньяцци преподал один важный урок: есть время для работы, а есть для отдыха, вне искусства талантливого человека лучше не трогать. Когда Уго не снимался, он спал. Так что все вопросы можно было задавать ему лишь во время съемочного процесса. Пикколи научил проявлять твердость в отношениях с людьми. Однажды на съемочную площадку пришла журналистка, которая предложила сфотографировать меня в обнаженном виде, в образе мадонны. Но мне совсем не хотелось этого. Журналистка же настырно приходила в течение 8 дней на съемочную площадку и добивалась согласия, хотя каждый раз получала отрицательный ответ. В конце концов, когда она в очередной раз пристала ко мне с уговорами, мне просто стало плохо. Это заметил Пикколи и спросил: “Ты хочешь сняться в обнаженном виде или нет?” “Конечно же нет!” — сказала я. И тогда он сам вышел на площадку и заявил: “До тех пор, пока эта женщина находится на съемочной площадке, я сниматься не буду”. Журналистке пришлось уйти. Тогда я еще была молода и не знала, как общаться с настырными людьми. Сейчас-то я знаю, как сказать “нет” в нужный момент.

Нуаре тоже был замечательный во всех отношениях человек, но мы общались не так уж много. А Мастрояни оказался настоящим ангелом-хранителем. В фильме есть несколько интимных сцен, в которых мне предстояло сняться. Я не знала, как к этому относиться. И Марчелло сказал: “Не волнуйся, все пройдет нормально, ты ничего не заметишь. Я к тебе не притронусь, все сделают оператор и камера”. В кинематографе действительно много зависит от того, как поставить свет, камеру, создать оптическую иллюзию. Марчелло слово сдержал: как сказал, так и сделал.

## «На площадке было... два Фассбиндера»

— В 1978 году я получила приглашение сняться в фильме Фассбиндера “Отчаяние” по роману Владимира Набокова. Как было не согласиться? Во-первых, Фассбиндер. Во-вторых, Набоков. В-третьих, моим партнером был Дирк Богард. А потому, когда Фассбиндер позвонил, я сразу сказала “да”. И когда он спросил, говорю ли я по-английски, я тоже сказала: “Да”. Это была неправда — английского я не знала. Даже сценарий полностью не могла прочесть. Поэтому сразу же побежала записываться в трехмесячную школу английского языка на Елисейских полях и по 6 часов в день учила его. Женщина-преподаватель, узнав, для чего мне это нужно, качала головой: мол, никогда в жизни ты не сыграешь по-английски. Но я стояла на своем и просто, как скрипты, запоминала свои реплики. И сыграла на английском, что помогло мне впоследствии с языком. Роман Набокова целиком я прочитала гораздо позже.

“Отчаяние” было первым фильмом Фассбиндера с достойным бюджетом — в 6 миллионов марок. С самого начала съемок режиссер строго следовал сценарию, который написал Том Стоппард. Приходил с утра, выставлял свет и уходил, оставляя актеров репетировать. На съемках абсолютно нормально и спокойно разговаривал со мной и другими актерами. Никаких истерик и эксцессов. И в то же время был на площадке и другой Фассбиндер, который общался на повышенных тонах, ругал абсолютно всю съемочную группу — причем ругался по-немецки, и я ничего не понимала. В тот момент ему было 33 года, и “Отчаяние” был его 34-й по счету фильм. Так что можно представить, как работал и как выкладывался этот режиссер.

## «Питер Гринуэй аплодировал при удачном кадре»

— А вот Питер Гринуэй — истинный, истинный, истинный, истинный англичанин, — *госпожа Ферреоль четыре раза повторяет эпитет в адрес знаменитого английского режиссера, а затем начинает хлопать в ладоши.* —

В первый съемочный день я подошла к нему, по-французски сказала “добрый день” и дружески приобняла. На следующий день он встретил меня, заранее выставив руку на полметра. Гринуэй ничего не смыслит в актерах, они его вообще не интересуют. В голове у него свое видение картины. В нашем фильме “Зед и два нуля” это были полотна голландского художника XVII века Вермеера. Режиссер привез на съемки каталог с работами живописца, часто рассматривал его и вдохновлялся. А потом начинал все делать, исходя из увиденного. Например, мог 6 часов выстраивать сцену: выкладывать складочки на моем костюме, выбирать позу, обстановку в комнате — чтобы все соответствовало изображению Вермеера. Я бы сказала, у него свой, особый подход к съемке — визуальный. Но это искусство! Если Гринуэю снятый кадр и игра нравились, он аплодировал и ничего не говорил. Я очень быстро поняла, что у него бесполезно спрашивать что-либо про характер персонажа, уточнять, кто это такой, что делает и зачем. Мальчики, которые со мной играли, пытались задавать вопросы: кого мы играем, куда в итоге движемся? Гринуэй начинал говорить, но говорил много и ни о чем. И в итоге мальчики так ничего и не понимали. И тогда я сказала им: “Не разговаривайте, а просто играйте, посмотрим, что получится”. Он не подсказывал, не помогал актерам в игре. Для него, повторюсь, была важна визуальная составляющая картины. Такой вот у нас Гринуэй.

## «У Алена Делона абсолютно нет чувства юмора»

— Вместе с Аленом Делоном мы также снимались в любовной сцене. У него вообще нет чувства юмора. Я поняла это, когда мы прогоняли сценарий, в котором был такой эпизод: открывается дверь, и за ней стоит Ален Делон. И вот мы читаем реплики, и он говорит: “Откроется дверь — и вы увидите Алена Делона”. Я киваю: мол, да, так по сценарию. А он с важностью опять повторяет, что я увижу самого Делона. Это было настолько абсурдно и смешно, что мне даже захотелось устроить ему маленькую гадость: прямо в кадре упасть в обморок. Но потом передумала: этот человек не поймет юмора. А наши сцены с поцелуями в фильме — сами понимаете, типично киношные.

## «Гениальной актрисой считаю Мэрил Стрип»

— Кого считаю гением из современных режиссеров и актеров? На мой взгляд, многие режиссеры сняли наряду с гениальными и очень примитивные фильмы. Например, великий Спилберг снял “Список Шиндлера”, который мне очень нравится, и “Парк Юрского периода” про динозавров, от которого я не в восторге. Гениальные работы есть у Вайды, но есть и не гениальные. Точно так же и с Тарковским, про которого меня часто спрашивают. Да, замечательный режиссер, но не все его картины мне кажутся шедеврами. Или вот Мэрилин Монро: разве все ее роли были удачными? А вот Мэрил Стрип я бы, пожалуй, назвала величайшей актрисой современности. Смотрела недавно фильм с ее участием и буквально впала в ступор: вот это настоящая игра!

## «Вуди Аллен передумал приглашать в фильм»

— Я люблю роли, в которых предстоит преодолевать какие-то трудности, решать какие-то проблемы. Будь это незнакомый английский язык, как в случае с Фассбиндером, — а я еще и на испанском в фильме играла, и на итальянском, или “Большая жратва”, ради которой мне пришлось поправиться на 20 килограммов. Два года потом пыталась их согнать.

Надеялась, что сложные задачи придется решать с Вуди Алленом. Мы с ним встречались в США. Выглядела встреча так. В назначенное время вышел человек и сделал несколько моих фотографий. Потом в комнату явился сам Аллен, стал рассматривать фотоснимки, а затем спросил: “Я собираюсь снимать фильм. Если я приглашу вас в картину, вы согласитесь?” О, конечно, отвечаю и сжимаю в руках монетку-талисманчик, который приносит счастье. Но, увы, монетка на этот раз не сработала. Через неделю мне позвонили и сказали, что режиссер взял в фильм другую актрису. С великим Федерико Феллини тоже не вышло поработать, хотя в Риме мы часто вместе завтракали.

## «Сейчас играю в пьесе «Монологи вагины»

— Мне давно хочется сыграть Екатерину II и леди Макбет. А еще — мачеху Золушки. Но это столько раз было сделано другими в Голливуде, что, возможно, нет смысла возвращаться к такому образу во Франции. Я уже сыграла много костюмированных исторических персонажей. Сейчас играю в театре — в пьесе американской писательницы Ив Энцлер “Монологи вагины”. Репетирую также роль великой певицы Марии Каллас. На лето намечены киносъемки в картине с детективным сюжетом, которую собирается снимать французский режиссер: в ней полицейские будут разбираться с загадкой, убил мужчина свою жену или нет.

## «В Беларуси девушки более красивые, чем парни»

— Минск — очень красивый город, в котором невозможно задохнуться, потому что есть много пространства. Все здания в хорошем состоянии, очень чистые улицы. А утром при свете дня я заметила, что здесь очень красивые девушки — я даже не ожидала этого. Мужчины тоже симпатичные, но женщины все-таки лучше.

**Людмила ЛУБНЕВСКАЯ.**



### Наше досье

*Андреа Ферреоль родилась 6 января 1947 года в Экс-ан-Провансе во Франции. Закончила в Париже Академию изящных искусств. Снялась в 153 фильмах.*

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## *Азаранка зарабіла рэкордную колькасць прызавых*

Беларуска Вікторыя Азаранка, якая завяршыла 2012 год на першым радку жаночага сусветнага тэніснага рэйтынгу, устанавіла новы рэкорд Жаночай тэніснай асацыяцыі (WTA) па колькасці прызавых, заробленых за адзін сезон.

Вікторыя Азаранка ў 2012 годзе выйграла шэсць турніраў, зарабіла 7 мільёнаў 923 тысячы долараў. Усяго ж за прафесійную тэнісную кар’еру Вікторыя Азаранка зарабіла ўжо больш за 168 мільёнаў долараў у якасці прызавых.

Такім чынам, Вікторыя Азаранка пабіла папярэдні рэкорд па колькасці прызавых за сезон, усталяваны ў 2009 годзе амерыканкай Сэрэнай Уільямс — 6.545.586 долараў.

Пяцёрка самых паспяховых у фінансавым плане тэнісістак планеты па выніках 2012 года выглядае так:

1.Вікторыя Азаранка (Беларусь) — **7.923.920** долараў,
2.Сэрэна Уільямс (ЗША) — **7.045.975** долараў,
3.Марыя Шарапава (Расія) — **6.508.296** долараў,
4.Агнешка Радваньска (Польшча) — **4.101.542** долараў,
5.Сара Эрані (Італія) — **3.110.636** долараў.

З НАГОДЫ

## *Ганаруся зборнай Гандураса*

Паважаная рэдакцыя!

Значная колькасць нас, балельшчыкаў, назірала за гульнямі Алімпіяды ў Лондане. Мяне вельмі ўразіла гульня зборнай Гандураса па футболе з бразільцамі. Колькі жадання перамагчы, спартыўнай злосці і патрыятызму! Неймары і Аскары адляталі ад іх, як дзіцячыя цацкі. Хаця Гандурас — краіна небагатая, ніхто не заплаціць, але да апошняга моманту яны змагаліся з грандамі футбола на роўных. Такая гульня, незалежна ад выніку, прымушае паважаць і каманду, і краіну.

Гульня Бразілія—Беларусь. Памылка бразільскага галкіпера, выкарыстаная нашым земляком, і далей каманда адбывала працоўную павіннасць, як у савецкія часы ў саўгасе. Характэрны сіндром хранічнай абыякавасці да краіны і нас, балельшчыкаў.

Спаборніцтвы па барацьбе сталі для нас сенсацыяй. Некалькі асоб каўказскай нацыянальнасці, купленыя, як дыні на кірмашу, варочаліся на барцоўскім дыване, як цяжарныя жанчыны. Аб якіх медалях можа ісці гаворка? Убухалі столькі грошай, а вынік нулявы. Прычына адна — у нас няма таго стрыжня, на які абапіраюцца дасягненні ўсіх краін, — гэта гісторыя краіны, мова, культура. Сваёй краінай, сваім народам, сабой трэба ганарыцца. Гэта стрыжань. А чым ганарыцца нам?

На так званых “усебеларускіх народных сходах” ніхто па-беларуску не размаўляе. Тых, хто размаўляе і ведае родную мову, не пускаюць на сход амапаўцы. Тых, хто хацеў папярэдзіць нас аб надыходзячым абвале, пасадзілі ў турму, а тыя, хто абадраў нас, як ліпку, ужо зноў круцяцца ля руля “лахатрона”. Прыдворныя салаўі дзяржаўных СМІ ва ўсю моц хваляць наша “квітнеючае” жыццё. На спартсменах гэта не адбіваецца? Яны што, у іншай краіне жывуць? Яшчэ як адбіваецца. Вось і вынік.

**З павагай —**
**Васіль КУРПАЦІН.**
*Магілёў.*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



*Станіслаў САЛАЎЁЎ:*

# «Веласіпедыст без... веласіпеда. Вы ўяўляеце?!»

*Вядомы расійскі спецыяліст Станіслаў САЛАЎЁЎ зараз трэніруе жаночую зборную Беларусі па веласпорце. Нагода для гутаркі з’явілася — напрыканцы мінулага тыдня стала вядома, што допінг-проба беларускай веласіпедысткі Таццяны Шараковай дала станоўчы вынік.*

Пробу ў Шараковай узялі на чэмпіянаце Еўропы, які праходзіў у Літве. У арганізме спартсменкі знайшлі забаронены прэпарат туанінагептан. Яна на самай справе выкарыстоўвала спрэй пад назвай “Рынафлуімуцылін”, у склад якога ўваходзіць туанінагептан, афіцыйна ўключаны ў “чорны спіс” ВАДА з 2011 года.

Таццяна не аспрэчвае, што выкарыстоўвала “Рынафлуімуцылін”, але дадае, што рабіла гэта не наўмысна. Пакаранне, якое прызначаць спартсменцы, можа быць розным. Усё залежыць ад канцэнтрацыі прэпарату ў арганізме і ад таго, ці павераць Таццяне.

— У апошні час з’явілася вельмі шмат новых забароненых для ўжывання прэпаратаў, — кажа Станіслаў Салаўёў. — Людзі не могуць разабрацца, што і да чаго. Вось і Таня карысталася расійскім спрэем “Рынафлуімуцылінам” ад насмарку. Яго давалі ў нашым дыспансеры спартыўнай медыцыны.

**— Няўжо там не ведалі, што ў склад спрэю ўваходзіць забаронены прэпарат?**

— Думаю, не ведалі. Навошта камусьці праблемы? Паўтаруся, спісы забароненых сродкаў пастаянна пашыраюцца, на гэтым ужо пагарэлі каля дзесяці спартсменаў з розных краін.

**— Што зараз будзе са спартсменкай?**

— Хацелася б, каб Міжнародная федэрацыя па просьбе беларускіх калег абмежавалася строгай вымовай. У такім выпадку медалі могуць і не забраць. Таня зараз вельмі перажывае, усё атрымалася так недарэчна... Ніхто ж не ведаў, што нельга гэты спрэй ужываць. Які там допінг? Дробязь нейкая.

**— Веласіпедысты ў чарговы раз аказваюцца ў цэнтры ўвагі. Да гэтага пасля Алімпіяды былы міністр спорту і турызму Алег Качан казаў вам: “Хоць адзін няхай прызнае свае памылкі. А то адны валяць на спартсменаў, другія — яшчэ на каго-небудзь. Прызнайце свае памылкі і скажыце: “Метадычна я прайграў Алімпіяду”.**

— Я нармальна ўспрыняў крытыку і на такія рэчы проста не звяртаю ўвагі. Я трэнірую ўжо каля 50 гадоў, шмат за гэты час пабачыў варыянтаў у жыцці. У той жа час разумею, што многія людзі, якія імкнуцца да ўлады ў беларускім спорце, нічога не разумеюць у веласпорце. І калі хочуць нешта змяніць, то зменяць яго толькі ў горшы бок. Узняцца з каленяў гэтаму віду спорту будзе ў такім выпадку вельмі цяжка. На словах можна казаць шмат чаго. А вось на практыцы... Трэба ведаць нашу “кухню”. У нас сёння некаторыя спартыўныя школы наогул без веласіпедаў, трэнеры — без грошай. Вы ўяўляеце?! Адсюль трэба пачынаць, а затым ужо ісці далей.

**— Чыноўнікі любяць казаць, што паказчык работы адзін — вынікі. А медалёў на Алімпіядзе ў веласіпедыстаў не было...**

— Спорт — гэта спорт, так атрымалася. Але ж нашы спартсменкі рэгулярна робяцца прызёрамі на чэмпіянатах Еўропы, свету. Гэта — не паказчык?

**— Вас нейкім чынам пакаралі пасля Гульняў?**

— Як казалі раней, паставілі на від.

**— Вы ведаеце, што сёння ў першую чаргу неабходна беларускаму веласпорту?**

— У першую чаргу — добрае стаўленне. Паўтаруся, ёсць спартыўныя школы, у якіх няма веласіпедаў! Хто будзе трэніравацца без веласіпеда?

**— Але ж на “Мінск-Арэне” пабудавалі шыкоўны велатрэк...**

— Так, але ж ён не ўласнасць веласіпедыстаў. Нават для нацыянальнай каманды там праблема трэніравацца, не кажучы ўжо пра рэгіёны... Грошы ж вялікія трэба плаціць. Мы спаборнічалі на трэку ў Астане, там тэмпература ў зале — плюс 29. У Англіі, калі трэніраваліся, было плюс 27, падчас спаборніцтваў — каля 29 градусаў цяпла. Вядома, у такіх умовах і вынікі будуць высокія. А на мінскім велатрэку трэніроўкі праходзяць пры тэмпературы плюс 18. Ёсць розніца? Усе цёпла апранаюцца, нават хуткасныя практыкаванні не можам выконваць. Шмат спартсменаў хварэлі — запаленне лёгкіх, бранхіт, прастуды... Вось і Таццяна Шаракова прастудзілася. Яна спаць ноччу не магла, нос быў забіты. Таму сёння маем допінгавы скандал.

**— Чаму вы аб гэтым не расказваеце высокім спартыўным чыноўнікам?**

— Я расказваю, але каб яшчэ хто ўмеў прыслухоўвацца...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НА ЗАМЕТКУ

## *Кветка пакут Хрыстовых*

Год таму, калі мне давалі парастак гэтай кветкі, папярэдзілі: “Пабачыш, расцвіце абавязкова на свята. Зразумела, не на 7 лістапада”. Як сапраўдны Фама, я моцна засумнявалася. І дарэмна. Першую кветку, як мне і прадказалі, я пабачыла на Пакроў Божай Маці. А потым пайшлі — адна за адной — на святы або напярэдадні іх. Апошняя на маіх вачах раскрывала свой бутон у панядзелак, першы дзень праваслаўнага Страснога тыдня. Так яна апраўдвае сваю назву: “страстацвет”. Між тым ёсць версія, што езуіты бачылі ў кветцы прыладу для катавання Ісуса Хрыста, таму так назвалі расліну.

Батанікі яе называюць Passiflora caerulea, або пасіфлора блакітная. Каб палюбіць гэтую расліну, не абавязкова ўжываць заспакаяльны лекавы сродак “Нова-пасіт”, у склад якога яна ўваходзіць. Дастаткова пабачыць незвычайную кветку і адчуць яе тонкі водар. Яна падобная на вадзяную лілію з вянцом блакітна-фіялетавых тычынак. Па асабістым вопыце скажу — вырошчваць зусім не складана, галоўнае, каб прыжылася. Калі ўмовы яе задаволяць, будзе вельмі хутка выганяць ва ўсе бакі галіны з лістамі, падобнымі на растапыраную далоньку дзіцяці. Любіць, як жанчына, па вясне зрабіць кароткую прычоску — можна не шкадаваць і абразаць на 1/3. Пасля гэтага ёсць гарантыя, што будзе расці яшчэ хутчэй (да 4 метраў у даўжыню) і цвісці (кветкі з’яўляюцца на новых парастках).

Калі знойдзецца месца на сонечным акне, таксама будзе вельмі ўдзячная. Але яе задаволяць і ўсходняе, і заходняе. Расце і на паўночным, толькі кветак значна менш дае. Сакрэты вырошчвання пасіфлоры вельмі простыя: зімой — каб не ніжэй за +7 градусаў, летам выцерпіць і спякоту, але лепш прыцяніць. Вільгаць любіць, таму паліваць давядзецца рэгулярна. Не будзе супраць, калі яе “падкорміць”: раз у 2—3 тыдні вясной і летам. Гэтай шматгадовай ліяне абавязкова патрэбна апора. Можна купіць у краме, а можна сагнуць дрот і ўваткнуць яго ў глебу. Пасіфлора замацуецца вусікамі і абдыме яго. Расліну можна вырошчваць і як аднагадовую — тады прыйдзецца кожную вясну абразаць і чаранкі садзіць наноў.

Шкада толькі, што дзівосныя кветкі, падобныя на зоркі, так хутка закрываюцца. Але ж на маёй расліне ёсць яшчэ адзін бутон — відаць, цуда-кветку пабачу якраз на Вялікдзень.

**Ірына АСТАШКЕВІЧ.**



Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906
nv@promedia.by
http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya

ISSN 2071-9647

Падпісныя індэксы: 63222, 632222

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 3.12.2012 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27300 экз. Заказ №5500.